# Навіны пчалярства

Люты 2016 г. № 1 (8)

Кола святаў

## Святкуем у сакавіку



### Масленіца –

свята развітання з зімой. Прыпадае на 8 тыдзень да Вялікадня, гэта значыць у 2016 годзе Масленіца адзначаецца з 7 па 13 сакавіка. Гэты тыдзень падрыхтоўвае людзей да паста і пачатку духоўнага і фізічнага ачышчэння. Абрадавымі стравамі тыдня былі масла, тварог, сыр і, абавязкова, бліны. Напрацягу ўсяго масленічнага тыдня ўсе смачна елі, святочна апраналіся і весяліліся: спальвалі на вогнішчы пудзіла, коўзаліся з абледзянелых пагоркаў на санках, каталіся на конях вакол вёскі, гушкаліся на арэлях, перацягвалі канат і, абавязкова, ездзілі да цёшчы на бліны. Нядзеля называлася Даравальнай, бо ўвечары ў кожным доме ўсе прасілі адзін у аднаго прабачэння.

## Святкуем у красавіку



### Вербная нядзеля –

дзень Уваходу Гасподняга ў Іерусалім, і адзначаюць пачатак Тыдня мук Гасподніх, які прысвячаюць успаміну пра апошнія дні зямнога жыцця Збавіцеля, смерць і пахаванне яго. Па велічыні і важнасці гэтых падзей кожны дзень тыдня называецца святым і вялікім. Вернікі праводзяць іх у строгім устрыманні, шчырай малітве, у подзвігах дабрыні і міласэрнасці.

У Беларусі сімвал свята – пальму – замянілі на вярбу. За тыдзень да Вялікадня ва ўсіх цэрквах праходзіць урачысты абрад асвячэння галінак вярбы.

Выходзячы з царквы ў Вербніцу, людзі адзін аднаго лёгка сцёбаюць лазой, кажучы: «Не я б'ю, вярба б'е, праз тыдзень – Вялікдзень».

Сёлета Вербная нядзеля прыходзіцца ў вернікаў каталіцкага абраду на 20 сакавіка, а ў вернікаў праваслаўнага абраду – на 24 красавіка.

Актуальнае сёння

## Условия благополучной зимовки пчел

***Зимовка подразделяется на два периода: неактивный и активный. С момента откладки яиц маткой, в большинстве случаев в феврале месяце, начинается активный период зимовки. В семье возрастает потребление корма, воды, температура в месте расположения расплода поднимается до 33-34 $^0$С, пчелы начинают выкармливать расплод. Потребление углеводного и белкового корма возрастает в разы. Пчелы беспокоятся и в определенный период начинают вылетать. Это и есть активный период зимовки. Чем выше беспокойство пчел в указанный период, тем большая необходимость пчеловоду вмешаться и устранить причины.***

Продолжение читайте на 3 странице.



## Галоўнае свята «Бортніка»

*27 і 28 лютага 2016 г. па адрасу: г. Салігорск, вул. Казлова, 41, у Гарадскім Палацы культуры адбудзецца свята «Адкрыццё пчалярскага сезону–2016». Запрошаны для ўдзелу ў мерапрыемстве дэлегацыі з Літвы, Латвіі, Швецыі, Расіі, Украіны.*

Матэрыял аб свяце глядзіце на 2 старонцы.

Мая краіна – Беларусь



## Родны дом

**Анатолій Балуценка**

Адведаў вёскі, гарады,
Але ад іх меў толькі стому,
Ды сэрца ёкае заўжды,
Калі вяртаюся дадому.

Шукаць спакой душы дарма,
Яна чужыну адчувае,
Нічога лепш, чым дом, няма,
Заўсёды ён мяне чакае.

Узнікаюць згадкі аб былом,
Дае такую дом нагоду,
Сагрэе ён мяне цяплом
І дасць для сэрца асалоду.

Свой родны кут, бацькоўскі дом!
Усёй душой к табе імкнуся,
Сустрэнеш ты мяне дабром,
Дзе б я ні быў, к табе вярнуся.

**Падпіску на «Навіны пчалярства» можна працягнуць у любы дзень і ў любым паштовым аддзяленні.**

Перыядычнасць выхаду газеты: 1 раз у два месяцы. Кошт падпіскі на паўгоддзе (3 нумары): 33 600 руб.

**Падпісныя індэксы:**
63251 – індывідуальная падпіска,
632512 – ведамасная падпіска.

## Пчаляры «Бортніка» адзначаюць:

***80 гадоў***
*14 лютага – Капацэвіч Віктар Нікіфаравіч, г. Мінск*

***70 гадоў***
*1 студзеня – Кубанскі Уладзімір Леанідавіч, г. Салігорск*
*19 студзеня – Сарагавец Уладзімір Уладзіміравіч, Слуцкі р-н*
*8 лютага – Альхоўскі Іван Міхайлавіч, г. Салігорск*
*11 лютага – Пяткевіч Мікалай Аляксандравіч, г. Салігорск*

***60 гадоў***
*11 студзеня – Маскевіч Мікалай Іванавіч, г. Салігорск*
*28 студзеня – Манько Леанід Уладзіміравіч, г. Ельск*
*29 лютага – Абросімаў Алег Віктаравіч, Уздзенскі р-н*

***50 гадоў***
*1 студзеня – Зямлянік Іван Уладзіміравіч, Уздзенскі р-н*
*10 студзеня – Леванцэвіч Віктар Леанідавіч, г. Салігорск*
*30 студзеня – Малочка Анатоль Рыгоравіч, Жыткавіцкі р-н*
*10 лютага – Конеў Юрый Васільевіч, г. Жлобін*

***40 гадоў***
*4 студзеня – Матарас Генадзь Іванавіч, Жыткавіцкі р-н*



***Кіраўніцтва «Бортніка» віншуе юбіляраў і жадае моцнага здароўя, шмат шчасця, добрага настрою, поспехаў у працы!***

Нашы мерапрыемствы

# Галоўнае свята «Бортніка»

**Бортнікі і пчаляры Беларусі!**

**Прапануем Вам прыняць удзел у свяце «Адкрыццё пчалярскага сезону-2016». Уваход для бортнікаў толькі па запрашэннях (адно запрашэнне – адзін пчаляр).**

Пчаляры, якія не ўваходзяць у склад аб'яднання, маюць магчымасць прыняць удзел у мерапрыемстве на платнай аснове:

– 200 тыс. рублёў за аднаго чалавека па папярэдняму запісу і аплаце да 25 лютага (квітанцыі аб аплаце неабходна абавязкова даслаць на адрас аб'яднання). У выпадку няўдзелу ў мерапрыемстве, незалежна ад абставін, складкі не вяртаюцца;

– 300 тыс. рублёў за аднаго чалавека без папярэдняй аплаты, па папярэдняму запісу.

Разліковы рахунак 3015478280010 у РКЦ № 52 у г. Салігорск філіял ААТ «Белаграпрамбанк» – Мінскае абласное ўпраўленне, код 942, УНП 600415178.

Пчаляры на платнай аснове не ўдзельнічаюць у розыгрышы латарэі, ім не браніруецца гасцініца.

## У прагаме свята «Адкрыццё пчалярскага сезону-2016»:

***1. Урачыстае запальванне дымара***

Сімвал пачатку пчалярскага сезону. Права на ўрачыстае запальванне дымара прадастаўляецца «Ганаровому пчаляру «Бортніка».

***2. Лепшы пчалярскі экспанат***

Прымаюць удзел пчаляры, якія прысутнічаюць на мерапрыемстве і прадстаўляюць пчалярскія экспанаты. Пчаляры, прадставіўшыя лепшыя экспанаты, найбольш цікавыя і карысныя ў плане прымянення на пасеках, адзначаюцца прызамі.

***3. Фотавыстава***

Умовы конкурса для арганізацыі фотавыставы: ад 10 фотаздымкаў памерам не менш 15 х 20 см. Размешчаны на асабістым (на асабістым) стэндзе. Тэматыка – пчаляр, пчала, мёд. Пераможца атрымлівае прыз.

***4. Латарэя***

Розыгрыш латарэі праводзіцца сярод пчаляроў аб'яднання «Бортнік». Пчаляры, уступіўшыя ў 2016 годзе, у розыгрышы не ўдзельнічаюць. Пры ўваходзе на мерапрыемства (фае) неабходна апусціць латарэю ў лататрон. Разыгрываецца 14 прызоў (пчалярскія прыстасаванні). Розыгрыш прызоў праводзіцца ад таннага да самага дарагога. У першы дзень, 27 лютага, разыгрываецца 7 прызоў, і на другі дзень, 28 лютага, разыгрываецца 7 прызоў (супер-прыз – медагонка). Пры адсутнасці ў зале ўладальніка выйгранай латарэі розыгрыш праводзіцца занава.

***5. Самы смачны мёд***

Вызначаецца самы смачны мёд, што прадаваўся ў 2, 3, 4-м кварталах 2015 года і ў 1-м квартале 2016 года ў магазіне «Пчалярства». Траім вытворцам самых смачных гатункаў мёду выдаюцца прызы.

***5. Віктарына «У слупа»***

На другі дзень свята арганізатары, вучоныя, пчаляры і госці свята адкажуць на ўсе ўзнікшыя пытанні, адрасаваныя ад пчаляроў як загадзя, так і ў час свята. Пытанне можа быць адрасным, г. зн. канкрэтнай асобе, альбо безадрасным, адказ на якое будзе дадзены кіраўніком альбо спецыялістам, да якога ў большай ступені адносіцца пытанне. Адказ будзе праводзіцца непасрэдна «У слупа». Пчаляры пры ўваходзе на мерапрыемства альбо ў час свята (прыём заканчваецца ў 13 гадзін 28 лютага) павінны апусціць ліст з пытаннямі ў скрынку.

***6. Аб розным***

– гандаль на мерапрыемстве – толькі па папярэдняму ўзгадненню з кіраўніцтвам «Бортніка»;
– для выдзялення месца пад экспанат інфармуйце кіраўніцтва загадзя;
– заяўкі на месца ў гасцініцы прымаюцца да 20 лютага;
– відэа і аўдыязапіс лекцый забараняецца.

***Паважаныя пчаляры, удзельнікі свята!***

Просім Вас прыняць актыўны ўдзел у конкурсах, прадставіць пчалярскія экспанаты, выступіць з абменам вопыту, падняць на абмеркаванне актуальныя пытанні пчалярства, задаць пытанні пісьмова. Аб сваім намеры інфармуйце кіраўніцтва «Бортніка» па тэлефонах (8-0174) 22-48-41 і (8-0174) 22-73-82 да 20 лютага.

## Программа праздника «Открытие пчеловодного сезона-2016»

**27-28 февраля 2016 года, г. Солигорск**

**Мероприятие будет проводиться в Городском Дворце культуры по адресу: г. Солигорск, ул. Козлова, 41.**

**Также будет работать магазин «Пчалярства» по адресу: г. Солигорск, ул. Заслонова, 12.**

**Магазин «Пчалярства»**

27 февраля работает с 9.00 до 16.00, 28 февраля работает по обычному распорядку с 10.00 до 17.00. В продаже – пчелоинвентарь, вощина безобменная (140 000 руб. за 1 кг) и вощина в обмен на воск*, ветпрепараты**.

**обмен воска на вощину по льготной цене – доплата 14100 руб.*

Продажа товаров от магазина «Пчалярства» (фойе Городского Дворца культуры)

27-28 февраля – с 9.00 до 10.30 и в перерывах между лекциями.

***продажа ветпрепаратов комплектами по акции «7+1 бесплатно».*

**27 февраля 2016 года (суббота)**
**Городской Дворец культуры**

09.00 – начало праздника, встреча участников;
09.00-10.20 – выставка экспонатов по пчеловодству; торговля (инвентарь, ветпрепараты); демонстрация фильмов;
10.20-10.50 – открытие праздника, торжественное зажжение дымаря, представление гостей;
10.50-11.10 – представление лучших экспонатов, вручение призов;
11.10-11.30 – отчетное собрание СМООП «Бортник»;
11.30-13.30 – лекции;
13.30-14.10 – перерыв, фильмы по пчеловодству;
14.10-16.50 – лекции, обмен опытом;
16.50-17.20 – концерт;
17.20-17.30 – подведение итогов конкурсных программ «Фотовыставка», «Самый вкусный мед», вручение призов;
17.30-17.50 – розыгрыш лотереи, вручение призов;
17.50 – завершение первого дня праздника.

**28 февраля 2016 года (воскресенье)**
**Городской Дворец культуры**

09.00-09.20 – выставка экспонатов по пчеловодству; торговля (инвентарь, ветпрепараты) – фойе Дворца культуры;
09.20-09.40 – литературно-музыкальная зарисовка;
09.40-12.30 – лекции, обмен опытом;
12.30-13.10 – перерыв, фильмы по пчеловодству;
13.10-14.50 – лекции, обмен опытом;
14.50-15.30 – ответы на вопросы «У столба»;
15.30-15.40 – розыгрыш лотереи, вручение призов;
15.40 – завершение праздника, заключительное слово.

## Пропуск на праздник – браслет

На празднике «Открытие пчеловодного сезона» всегда присутствует большое количество пчеловодов. Вход и выход на мероприятие через пропускной пункт по пригласительному билету. Как правило, это создает очередь и, соответственно, неудобства для бортников. Возникали неоднократно конфликты.

Для решения указанного на празднике с этого года вводится новый порядок пропуска. Первичный вход на мероприятие производится по приглашениям. Вместо (как было на прошлых мероприятиях) временных пропусков участнику будет одеваться на левую руку виниловый браслет. Данный браслет будет являться пропуском на мероприятие как 27, так и 28 февраля. Поэтому после первого дня праздника браслет не снимается и служит основанием свободного входа. Браслет разорванный, склееный или имеющий другие повреждения – недействителен.

## А К Ц И Я «7+1 бесплатно»

На период праздника, 27-28 февраля, проводится торговая акция по продаже товаров по пчеловодству по акции. Для быстрого обслуживания бортников товары по акции будут упакованы комплектами по 8 штук. Перечень товаров по акции «7+1 бесплатно»:

| Наименование товара | Стоимость 1 упаковки, руб. | Стоимость комплекта (8 упаковок), руб. |
|---|---|---|
| Ветфор | 47 000 | 329 000 |
| Варостоп | 98 000 | 686 000 |
| Муравьинка | 27 000 | 189 000 |
| Бактопол | 27 000 | 189 000 |

## Увидеть и приобрести



На празднике «Открытие пчеловодного сезона-2015» наибольший интерес у пчеловодов вызвал стол для распечатывания сотов на 20 рамок. Выполнен он из нержавейки. Удобная подставка для размещения рамки под распечатывание. Однако всем указанного оборудования не досталось. В этом году на мероприятии также будет представлен стол для распечатывания сотов.




**Книгу «Основы пчеловодства»** многие называют «Библией по пчеловодству». На основе многолетнего опыта Валерия Николаевича Коржа и анализа существующей литературы (в том числе и отдельных уникальных изданий) в книгах в доступной форме дается описание технологии и продуктов пчеловодства.

Материал, представленный в книгах, имеет прикладное значение для всех пчеловодов, независимо от того, какой системой ульев они пользуются. Связано это с тем, что абсолютное большинство вопросов привязано не к конкретной системе ульев, а рассматриваются они в системе, где основными объектами анализа являются пчела и пчелиная семья.

Приобрести книги В. Коржа можно будет на празднике в г. Солигорске 27 и 28 февраля 2016 года.

Актуальнае сёння

# Условия благополучной зимовки пчел

**Февраль – последний месяц зимы. По климатическим условиям в большинстве он носит зимний, т.е морозный характер. Несмотря на это, в феврале начинает работу матка, а значит, семья переходит в активный период зимовки. Однако не все матки на пасеке, равно как и во всей Беларуси, начинают работать в один день, в один месяц. Многочисленные наблюдения пчеловодов показывают, что работа маток начинается и в январе, и в декабре. Значит, на начало яйцекладки оказывают влияние определенные факторы. К таковым относятся: утепление семей, вентиляция, возраст маток, сила семей, породная принадлежность и т.д. Получается, что пчеловод может оказывать влияние на начало работы матки.**

**А вот когда оптимально начало работы матки? Вопрос остается открытым. По мнению большинства пчеловодов ранняя работа маток приводит к угасанию энергии пчел, и семьи медленнее развиваются весной, хуже используют ранний и главный медосбор с рапса. Другой точки зрения придерживаются американские ученые: «*…исследования Министерства сельского хозяйства США, проводившиеся в 1932 г., показали, что выведение расплода в зимнее время – явление не только нормальное, но и полезное для семьи*». («Пчела и улей», стр. 337).**

## Факторы, определяющие результат зимовки

### Часть вторая. Активный период зимовки пчел




Активный период зимовки пчел начинается с момента откладки яиц маткой. Температура в центре клуба поднимается до 33°-34°С, влажность в гнезде, потребление углеводного и белкового корма увеличиваются, у пчелиной семьи возникает потребность в воде.

*«От начала к концу зимы примерно в 1,5 раза увеличивается абсолютная влажность воздуха в надрамочном пространстве в ульях семей, зимующих под открытым небом. В соответствии с этим концентрация $CO_2$ повышается в среднем в 5 раз, а содержание $O_2$ уменьшается в 3 раза (Е.К. Еськов, 1983)».* («Биология медоносной пчелы», стр. 228).

В условиях Беларуси начало работы матки, а значит, и активный период зимовки, начинается за 1-3 месяца до наступления весны и зависит от ряда факторов. В числе основных факторов являются: повышение влажности в улье, чрезмерное утепление, увеличение продолжительности светового дня, беспокойство пчелиной семьи, наличие перги. Другие факторы в меньшей степени влияют на переход пчелиной семьи в активный период зимовки пчел.

**ВЛАЖНОСТЬ В УЛЬЕ** является основным фактором результата зимовки пчел, а также времени начала работы матки. Чем выше влажность в улье, тем в большей степени изнашиваются пчелы в зимний период, тем меньше продолжительность жизни пчел (см. первую часть) и тем раньше начинает работу матка. А наличие расплода влечет уже к активности семьи, к повышенному расходу корма, к переполнению кишечника пчел и наличию синиц на пасеке.

**ЧРЕЗМЕРНОЕ УТЕПЛЕНИЕ** также является фактором перехода семьи в активный период зимовки пчел. Выделяемое семьей тепло задерживается чрезмерным утеплением. Температура в улье поднимается, происходит распад клуба, в итоге начинает работу матка, что в свою очередь приводит к повышенному и быстрому расходу корма.

*«Излишнее тепло более неблагоприятно действует на состояние пчел клуба, чем холод. Избыток тепла может привести к распаду клуба зимой и преждевременному появлению расплода в гнезде. В этом случае пчелы волнуются, потребляют много корма, опоношиваются и к весне сильно ослабевают или вовсе погибают».* («Зимовка пчел», стр. 72).

**ПРОДОЛЖИТЕЛЬНОСТЬ СВЕТОВОГО ДНЯ** также побуждающе влияет на переход пчелиной семьи в активное состояние. Пчелы все больше предчувствуют приближение периода своего облета. Однако влиять пчеловоду на указанный фактор крайне трудно.

**БЕСПОКОЙСТВО ПЧЕЛИНОЙ СЕМЬИ** происходит из-за человека, птиц, животных и т. д. В первую очередь беспокоит пчел пчеловод путем осмотра пасеки и пчелосемей в зимний период. Также большое беспокойство для пасеки вносят и синицы. Однако замечено, что синицы посещают в первую очередь неблагополучно зимующие пасеки (наличие поноса, наличие расплода, слабые и переутепленные семьи и т.д.).

**НАЛИЧИЕ ПЕРГИ** в зимующей семье дает положительный эффект.

*«Чем больше запасов перги, тем сильнее защитные свойства организма».* («Биология медоносной пчелы», стр. 232).

Используют пчелы пергу в зимний период для выкормки расплода и собственного потребления. В связи с переполнением кишечника, а также возможным расстройством кишечника по причине недоброкачественного корма, чтобы сдержать понос, пчелы потребляют в данный период больше белкового корма. Вот почему важно к концу зимовки пчелам давать канди с содержанием белкового корма (перги).

Перечислены факторы, влияющие на переход пчелиной семьи в активное состояние (на начало работы матки). В большинстве случаев пчеловод может оказывать влияние на состояние зимующей семьи и на переход ее в активное состояние. В этом и состоит его главная задача, от которой зависит исход зимовки, а значит, и продуктивность пчел в предстоящем году. Чрезмерно раннее начало работы матки чаще приводит к отрицательным последствиям.

На протяжении всего года жизни пчелиной семьи, и особенно в период зимовки, важным фактором является **ВОЗДУХООБМЕН В ПЧЕЛИНОМ ГНЕЗДЕ.** При недостаточном воздухообмене в улье увеличивается содержание углекислого газа и водяных паров.

*«Во время зимовки пчелы приспособились переносить высокое содержание углекислого газа, концентрация которого влияет на их состояние. Рост концентрации углекислого газа в улье влечет за собой уменьшение потребления корма. Этот, казалось бы, положительный результат таит в себе серьезные отрицательные последствия. Дело в том, что пчелы, зимующие при прочих равных условиях в ульях с повышенной концентрацией углекислого газа, сильнее изнашиваются, а перезимовав, меньше выращивают расплода и быстрее погибают. «...Ограничение воздухообмена неизбежно ведет к повышению влажности».* («Экология медоносной пчелы», стр.200).

**РАБОТА ПЧЕЛОВОДА.** Если в феврале – марте месяце матка заработала, необходимо оказать практическую помощь семье пчел. У семьи возникает потребность в высокой температуре вокруг расплода – значит, необходимо семьи утеплить. Для выкормки расплода и поддержания влажности в улье необходима вода – значит, по возможности установить поилки в семьях и давать воду по мере ее потребления. Особенно нуждаются пчелы в тепле и воде в ранневесенний период. При недостатке углеводного или белкового корма необходимо произвести пополнение корма путем дачи канди или медовых рамок, в которых отсутствует закристаллизованный и недоброкачественный мед. Вместе с тем, следует как можно меньше беспокоить пчел, ведь из ряда факторов успешной зимовки пчел, по мнению финских пчеловодов, является «*спокойное место для зимовки – без ветра, птиц и пчеловодов*». (Журнал «Пчеловодство» №2, 2004 год, стр. 61).

**Подготовил Василий Ковалец**

# Мае пчолы зімуюць так

**Навумчык Іван Іванавіч, Ляхавіцкі р-н, у абслугоўванні 300 пчаласем'яў, парода пчол італьянка і бакфаст, вуллі 16-рамовыя, у «Бортніку» з 2004 года, тэл.: +375-29-817-40-16.**

Мой спосаб зімоўкі называюць пчаляры па-рознаму: хто варварскім, хто здзекам над пчалой, а хтосьці, хоць і бачыць відавочнае, сумняваецца, што гэта не паказуха. І я ўпэўнены, што большасць пчаляроў, якія наведваюць мой пчальнік, бачачы відавочнае, так і не пойдуць па шляху халоднага спосабу зімоўкі.

Праводзіцца зімоўка наступным чынам. Пасля падкормкі пчол, у першай палове кастрычніка, з пчалінай сям'і здымаю ўсё: уцяпленне, палатно, стольнік. Застаюцца голыя рамкі. У такім стане пчаліная сям'я знаходзіцца да сярэдзіны студзеня. Гэта перыяд у большасці з




перападамі тэмператур або цёплым надвор'ем, як, напрыклад, восень і асабліва снежань 2015 года. Нават у варыянтах паніжэння тэмператур да мінус 20°С ці ніжэй не звяртаюся да «заўчаснага» ўцяплення. Але такі спосаб зімоўкі да сярэдзіны студзеня прадухіляе працу пчаламатак, трымае пчол у клубе, а гэтыя фактары і ёсць сэканомлены пчаламі корм і сухасць ў вуллі. У сярэдзіне студзеня кладу на сем'і палатно. Гэта ўжо бліжэй да пачатку яйцакладкі, і сям'я як бы пачынае падрыхтоўвацца да працы маткі. Цалкам уцяпляю пчол у пачатку лютага. Сям'я выграваецца і праз нейкі час пачынае працу матка. А люты – гэта і ёсць аптымальны час пераходу пчоласям'і ў актыўную фазу зімоўкі.

Указаны спосаб ужываю на працягу 5 гадоў. Па маёй ацэнцы халодная зімоўка дае эканомію корму і здароўе пчале. А які спосаб выкарыстоўваць пчалярам – справа кожнага.

**Карпей Геннадий Владиславович, г. Барановичи, в пользовании 100 пчелосемей, порода пчел – карника и итальянка, ульи Дадан от 12 до 18 рамок, 20 ульев 18-рамочных на узковысокую рамку, в «Бортнике» с 2007 года, тел.: +375-29-790-77-90.**

Гнезда на зиму формирую к одной стороне на 7-8 рамках, в которых оставляю примерно по 8 кг меда. Подкармливаю семьи из расчета 9 л сиропа на семью, т.е. 3 кормушки по 3 л сиропа. Такого количества скормленного сахара считаю достаточным на питание пчелам в зимний период. Подкормку заканчиваю в первой декаде сентября месяца.

В начале октября провожу легкое утепление семей, в частности, на потолок кладу одеяло в один слой. В ульях на теплый занос с противоположной стороны от летка и собранного гнезда пчел снимаю одну потолочину, а в ульях на холодный занос семьи собраны с правой стороны, а потолочину снимаю с левой стороны улья. Открытое пространство потолка способствует удалению влаги из улья. По сторонам собранного гнезда стоят деревянные вставные



доски, через которые также легко проходит воздух. Летки верхние закрываю, а нижние оставляю на ширину 15 см.

Утепление семей провожу в конце февраля – начале марта. По сторонам ставлю теплые вставные доски или доску, обернутую фольгоизолом, сверху – теплые подушки, наполнителем в которых является ветошь. Как правило, к этому времени матки уже заработали и утепление семей способствует хорошей работе матки.

Зимовку таким способом провожу уже более 10 лет. Результат хороший, в ульях после зимовки сухо и главный показатель благополучия – сухой подмор. Исключением является зимовка в одностенных ульях, где всегда имеется влажность. Для успешной зимовки пчел важнейшими факторами являются максимальное сохранение тепла и максимальное удаление влаги, поэтому что-то менять в способе зимовки не собираюсь.

**Подготовила Светлана Щитковец**

Лечым пчол






**В газете «Навіны пчалярства» № 4 за 2015 год в рубрике «Пытайцеся – адказваем» была размещена информация об отсутствии на рынке Беларуси препарата «Бактопол». За истекший период предприятием УП «Пчеловодство» проделана определенная работа – получено разрешение Департамента ветеринарии РБ на импорт препарата. Продажа бактопола будет проводиться на празднике «Открытие пчеловодного сезона 2016».**

**В беседе с руководством фирмы «Структура», производителем бактопола, мы получили информацию, что Беларусь сравнительно много покупает указанного препарата. Встает вопрос: «А как пчеловоды других стран обходятся без бактопола? Какова точка зрения у наших пчеловодов?» Для прояснения данной ситуации мы обратились к известным пчеловодам: Сигитасу Усялису (Литва) и Валерию Леошко (Беларусь).**

# Есть бактопол – нет гнильца!



**Леошко Валерий Михайлович, д. Сокорово Бешенковичского района, в пользовании 50 семей, порода пчел – бакфаст и краинка, ульи на рамку Дадана на 16-22 рамки, в «Бортнике» с 2006 года, тел. +375-29-813-18-05.**

В августовском номере газеты «Навіны пчалярства» дана информация о том, что в перспективе у нас в Беларуси снова появится препарат от гнильца – бактопол. Для меня и, думаю, для большинства пчеловодов нашей страны – это хорошая информация. Постараюсь объяснить почему.

Варроатоз не является единственной проблемой пчеловодства. Лидируют по болезням европейский и американский гнильцы. Понимают пчеловоды или нет, но распространены они достаточно широко. И если вовремя не принять экстренные меры, то пасеке будет нанесен огромный ущерб. В данном случае без выбраковки больных семей никак не обойтись.

**СОСЕД С ТРЕМЯ ПЧЕЛОСЕМЬЯМИ ОСЕНЬЮ И ОДНОЙ СЕМЬЕЙ ВЕСНОЙ – «СМЕРТНЫЙ ПРИГОВОР» ВАШЕЙ ПАСЕКЕ**

Неблагоприятная эпизоотическая обстановка в стране по гнильцам будет продолжаться до тех пор, пока будут безответственные пчеловоды, в первую очередь, это те, кто держит мало пчелосемей. Сосед с тремя пчелосемьями осенью и одной семьей весной – «смертный приговор» вашей пасеке. Объяснить такому соседу, что за пчелами нужен досмотр и лечение, дело бесперспективное. Вот почему уничтожением пчелосемей не обойтись, их нужно лечить.

В настоящее время идеальным средством для борьбы с гнильцом является бактопол, действующее вещество которого антибиотик рифампицин. Бактопол изготавливается в полосках, поэтому работа с ним отнимает у пчеловода минимум времени и труда – разместить полоски между рамок. А результаты действия препарата могут только удивлять, болезнь отступает моментально. Нельзя не отметить еще один важный момент: когда пчелы сгрызают полоски, антибиотик не попадает в мед. Разгрызенные полоски пчелы выбрасывают из улья. После двукратной обработки двумя полосками болезнь исчезает полностью. В данном вопросе равных бактополу нет. Даже ленивым пчеловодам это по плечу. Пишу это для вас не с целью рекламы, просто делюсь опытом по применению бактопола на своей пасеке. Желаю удачи.

# Ответ на вопрос о гнильце



Сегодня в Литве пчеловод не найдет, где купить не только бактопол, но и каких-либо подобных лекарств против этой болезни на основе антибиотиков. С 2003 года запрещено в стране лечение гнильцов и других болезней антибиотиками. Первоначально это был шок для пчеловодов, потому что перед запретом было рекомендовано для профилактики гнильцов добавлять лекарственные средства в зимний корм. Конечно, переходный период от лечения антибиотиками до преодоления этой проблемы другими средствами, не был легким.

Не обошлось и без скандалов, когда в изъятых из торговли образцах меда нашли остатки антибиотиков. Современная аппаратура исследования такова, что может определить и несколько миллиграмм (1 г = 1000 мг) в килограмме меда.

Так что у нас антибиотики для лечения гнильцов не применяются, а пчеловодство процветает – в этом могли убедиться наши друзья-пчеловоды из Беларуси, которые посещали пасеки Литвы в последние годы. И кроме того, антибиотики заболевание не лечат, а только приостанавливают. Так что мой вам совет: отдайте предпочтение выбраковке больных семей, отбору устойчивых к гнильцам линий пчел и прибегайте к лечению таким эффективным средством, как бактопол, только в исключительных случаях. Безусловно, необходимо иметь довольно твердую гарантию, что болезнь не вернется на вашу пасеку из-за нерадивого соседа пчеловода с крайне запущенной пасекой.

**Сигитас Усялис, Литва**

Ёсць меркаванне

# Осторожно, лекарство!

**Петрусевич Николай Иванович, Столинский район, в пользовании 70 пчелосемей, ульи – лежак на 20 рамок, порода пчел – краинка и бакфаст, в «Бортнике» с 2004 года, тел. +375-29-833-84-70.**

В газете «Человек и пчела» № 2, 3 и 4 за 2015 год опубликована статья доктора медицинских наук, профессора И.Н. Семенени «Терапия или лекарственная агрессия».

По специальности я ветврач, окончил Витебский ветеринарный институт. Поэтому многое из области лекарственных веществ и их применения знаю давно. Однако эту статью я читал с большим интересом и узнал для себя много нового. Соглашаясь с автором статьи, хочу сказать, что мы часто забываем основополагающий принцип деятельности врача



– не навреди. Зачастую сами себе назначаем медицинские препараты, не задумываясь о последствиях. Как правило, вследствие неквалифицированного лечения себя или пчел происходит уничтожение иммунитета, ослабление организма и появление новых видов болезней. Многие препараты накапливаются в продуктах пчеловодства и, попадая в организм человека, наносят вред его здоровью. Согласен, пришло время задуматься и по возможности сократить применение медикаментозных средств в пчеловодстве. Все-таки стоит чаще прибегать к уничтожению больных семей, тем самым выбирая из двух зол наименьшее. А также необходимо вести селекционные работы на пасеке в направлении устойчивости пчел к болезням.

Считаю, что статья «Терапия или лекарственная агрессия» очень актуальна в наше время, время изобилия всевозможных лекарственных средств и их рекламы, побуждающих нас к необдуманным решениям. Пришло время взять за основу девиз: «Осторожно, лекарство!».

Предлагаю повторить публикацию данной статьи и в газете «Навіны пчалярства», ведь не все бортники являются подписчиками газеты «Человек и пчела», а прочитать ее советую всем.

**ОТ РЕДАКЦИИ:**

*По нашей оценке статья И.Н. Семенени «Терапия или лекарственная агрессия» очень актуальна и поучительна в плане лечения человека и пчелы. В дальнейшем, при наличии свободного места в газете «Навіны пчалярства» повторим публикацию указанного материала. Согласие редактора газеты «Человек и пчела» П.В. Воробьева и доктора медицинских наук профессора И.Н. Семенени мы уже получили. В то же время мы пригласили автора статьи на праздник «Открытие пчеловодного сезона-2016» с темой выступления «Лекарственные препараты в пчеловодстве. Применение и последствия».*

Абмен вопытам

# Весенние заботы на пасеке



Моя личная пасека насчитывает 100 пчелиных семей. Занимаюсь пчеловодством с 1979 г. В организации «Бортник» состою около 10 лет.

Хочу поделиться своим взглядом, опытом работы с нашими крылатыми труженицами в этот трудный для них период. Лично я считаю, что март и апрель месяцы – это ежегодный экзамен для пчеловода перед своими подопечными (пчелами). Так как в этот период происходит замена перезимовавших пчел (отмирает больше, чем рождается). Все чаще и чаще знакомые, друзья и просто начинающие пчеловоды обращаются за советами в весенний период: пришла весна, что делать дальше?

Кратко поделюсь опытом и только из своей практики. Содержу пчелосемьи в 16- и 12-рамочных ульях. 16-рамочные переделал под два магазина, 12-рамочные состоят из 2 корпусов и магазинных надставок, которые ставлю в зависимости от взятка, пользуюсь разделительными решетками, считаю, 12 рамок для матки достаточно.

**МАРТ И АПРЕЛЬ МЕСЯЦЫ - ЭТО ЕЖЕГОДНЫЙ ЭКЗАМЕН ДЛЯ ПЧЕЛОВОДА**

Пришла долгожданная весна, наши пчелы сделали облет, и я приступаю к следующим действиям: в первый теплый день, когда пчелы выходят на облет, не дожидаясь температуры +12°С, меняю донья в 12-рамочных ульях, которые я подготавливаю заранее. 50-60 пчелиных семей мы с сыном проходим за час, может полтора. Потом беглый визуальный осмотр, ведь открыв холстик, все видно: наличие кормов и состояние семьи. Если случается, что пчелосемьи вызывают подозрения, их помечаем, и после осмотра всех приступаем к их повторному пересмотру, а именно: обращаем внимание на наличие и качество матки, т.к. бывают случаи, что погибает матка, – такую семью сразу присоединяем, а улей убираем; на наличие и качество кормов (чтобы не было закристаллизованного меда и в достатке перга). Всем без исключения сверху на рамки даем в полиэтиленовых пакетах по 250 г воды (теплой, +35°С), а также по 0,7 кг сиропа, при этом не нарушаем целостности пакета (не делаем никаких дырок). Сироп изготавливаем в соотношении 1:1, добавляя 20% натурального меда. Обычно в семьях корма достаточно, можно и не пополнять, но для успокоения себя и стимуляции выращивания расплода даем подкормку в пакетах. Еще кроме пакетов с водой, которые помещаем в гнездо, на пасеке необходимы поилки, главное – не опоздать с их постановкой, это необходимо сделать до первого очистительного облета. Воду можно подсаливать, но не более 5 г на 1 л воды, если это использовать все лето, то выход воска увеличивается до 25% (Г.Ф. Таранов). Если есть лишние рамки, удаляю за утеплитель – оставляю столько, сколько обсиживают пчелы. Боковые утеплители – это пенопласт толщиной 30 мм, обтянутый фольгированным поролоном или обмотан скотчем.

На второй день облета мы с сыном заканчиваем осмотр по такому же методу оставшихся пчелосемей (очистка, сокращение, утепление, подкормка).

Такие первые необходимые работы мы проводим на своей пасеке, а далее примерно с 1 апреля начинается первое расширение гнезд. Конечно, все зависит от погоды и от состояния пчелиных семей, но это уже другая тема.

Всех вам благ, а также больших медосборов в этом сезоне. Если у кого возникнут вопросы, обращайтесь по тел. +375-44-47-45-488 (Велком).

**Бурко Иосиф Зигмундович, Осиповичский район**



# Поўны агляд пчол вясною

**Белікаў Алег Паўлавіч, г. Жодзіна, у карыстанні 20 пчаласем'яў, парода пчол цёмная лясная і краінка, вуллі Дадан 12- і 14-рамовыя на цёплы занос, у «Бортніку» з 2014 года.**

Калі стане тэмпература +12°С і ціхае без вятроў надвор'е, тым часам і робім поўны агляд. Мэта заключаецца ў тым, каб ведаць становішча пчоласям'і, выправіць па магчымасці зімовыя памылкі, пачысціць цалкам ад падмору, смецця, паносу; убачыць наяўнасць дзеткі, маткі і іх якасць. Спелая суцэльная дзетка без значных пропускаў у ячэйках – якасная ў дадзены момант матка.

Калі апаноўваюць нейкія сумненні ў стане пчоласям'і, патрэбна звазіць падмор ці дзетку спелую на аналіз у бліжэйшую ветэрынарную баклабараторыю. Але не заўсёды там можна дачакацца нейкага здавальняючага адказу.

Калі корму зусім мала, трэба падкарміць сіропам, прыгатаваным з разліку на 1 л вады 1 кг цукру. Цяпер вясною вялікімі порцыямі даваць нельга – начамі яшчэ замаразкі, непажадана, каб застуджвалася гняздо і дзетка пчаліная. Для выкармкі і гадавання дзеткі пчалам апроч корму неабходна вада. Зараз яна не вельмі цёплая навокал, вось таму вялікая падмога вадой будзе ў выглядзе рэдкага сіропу 1:1.

Ну а калі не бракуе рамак з мёдам, толькі не рапсавым у цвёрдым выглядзе, то паўна ж някепска, узняўшы відэльцам пячатку, паставіць іх побач з дзеткай.

Зараз вельмі добра, калі маецца ўзятак для пчол: ляшчына, лаза, курaслеп, медуніца, змешаны лес. Не ўяўляю сваіх пчол, каб яны стаялі ў бязлесным месцы, што б я рабіў, а найперш мае пчолы, і адхіняю ад галавы такія думкі, бо без ранніх лясных кветканосаў адбываецца вельмі кепскае развіццё пчол.

Тэмпература трэба павышаная пры выхоўванні дзеткі, а цяпер у шмат якіх сем'ях моц не надта вялікі, таму трэба, каб пчолы былі ўцеплены не горш, а лепш, як зімой. Па мінаванні халадоў усё зняць і схаваць да позняй восені. Захоўваецца цяпло ў гнёздах пчол значна лепш у вуллях на цёплы занос.

Трэба абавязкова весці «Дзённік пчалінай пасекі», без яго ўся праца ўслепую. У дзённік заносім пасля кожнага агляду дадзеныя аб сям'і: якога году ў ім матка, ці райлівая, якой яна мясціны паходжання, колькі летась дала-ўзяла мёду. Ад шмат якіх памылак застрахоўваеш сябе на будучы час. На ўсіх вуллях павінен быць уласны нумар. Зараз самы час пафарбаваць вуллі; замяніць колікі, якія згнілі ў зямлі, бо ў маі, як будуць уздужалыя пчолы, могуць узнікаць ужо праблемы з рухамі, якія будуць раздражняць пчол. Ад зямлі вуллі павінны стаяць на вышыні не меней як 0,5 м: не так будуць даставаць вільгаць і запаўзаць уверх няпрошаныя госці.

З зімы пчолы выходзяць у розным стане. Здаецца, пайшлі з восені аднолькавай моцы, корму дастаткова было ў гнёздах, а выйшлі вясной – поўная процілегласць. І потым развіваюцца: адны – зоймуць да мая гняздо, іншыя – і да лета толку няма ў руху. Асноўная прычына, пэўна ж, у матцы.

Якая матка – такое і дзіцятка. Сем'і, дзе кепскія маткі, трэба выбракоўваць пастаянна, не шкадуючы, бо ўвагі ім удзеліш багата, а ўзамен пад канец сезону не атрымаеш нічога. Слабую, не ўнушаючую даверу сям'ю лепш зараз перанесці рамкамі ці высыпаць у файную сям'ю з маладой маткай.

Пасля, калі з'явяцца маткі ці матачнікі, можна будзе зрабіць выдатны ранні адводак, які да ліпеня набярэцца моцы.

У мацнейшых сем'ях з файнымі маткамі ўвесь ратунак пчаляра. У іх больш высокая ўстойлівасць супраць хвароб, хутчэй развіваюцца, у іх больш хабаток, лепш развіты крылы, большы аб'ём мядовага зобіка. Моцная сям'я ў неспрыяльнае для пчол надвор'е лепш абаграе дзетку і корм па сотах дастае.

Хочацца яшчэ адзначыць, што пры падкормках вясной трэба быць заўсёды пільным, асцярожным, ставіць сіроп ці даваць мёд толькі позна ўвечары. Пры адсутнасці ўзятку пчолы ў пошуках нектару ў цёплую гадзіну пранікаюць усюды, лезуць у чужыя вуллі, забіваючы вартавых, рабуюць цалкам гняздо слабейшых сямей. Пры адсутнасці ўзятку гнёзды пажадана аглядаць пад вечар. Бывае і так, што змаганне са зладзействам корму, а гэта: скарачэнне ляткоў; націранне сценак керасінам, алеем не дае ніякага плёну. Зладзейства перарастае ў напад і прыходзіцца вывозіць пчол у іншае месца – бліжэй да ўзяткаў, на адлегласць не меней 3 км. А калі заўважаеш, што рабуюць адну якую сям'ю, яе трэба схаваць у цёмнае месца на суткі-двое.

А пры спрыяльным надвор'і, калі маюцца ўзяткі хоць якія, пад канец красавіка ставяцца рамкі з вашчынай, бо сем'і хутка папаўняюцца маладой пчалой.



## Прадаць – купіць

**ПРАДАМ**

► Платформу на 15-16 вуллёў, Салігорскі раён, Мікалай Захаравіч, тэл. хат.: (8-0174) 29-60-50, маб.: +375-29-169-60-50.

► Платформу на 20 вуллёў, пчаласем'і, вуллі 16-рамовыя, пчаласем'і, Салігорскі раён, Валянціна Мікалаеўна, маб.: +375-29-341-92-01.

## У краіне фальклору

# Ліпа – меданос і не толькі



Ліпа – дрэва мяккай пароды, названае так з-за ліпкага соку. Адносіцца да сямейства ліпавых. Вышыня да 30 метраў, працягласць жыцця – 150-200 гадоў. Перыяд максімальнага развіцця кроны ад 40 да 80 гадоў. Адносіцца да павольна растучых дрэў.

Лясоў з перавагай ліпы ў Беларусі мала. Імі занята ўсяго каля 2 тыс. га. Акрамя драбналістай у парках і садах культывуецца і ліпа буйналістая, голая і амерыканская. Квітнее ліпа драбналістая ў канцы чэрвеня – пачатку ліпеня. Пчолы збіраюць з яе кветак нектар каля 10 дзён. Добра выдзяляе нектар і наведваецца пчаламі ліпа ў цёплае, ціхае, вільготнае надвор'е. Кветкі адкрыты, таму мёдапрадуктыўнасць няўстойлівая.

Нектарапрадуктыўнасць 1 га суцэльнага ліпавага драсастою ў межах 1000 кг.

Ліпавы мёд цудоўны на смак, мае прыемны водар. Колер свежага мёду светла-жоўты. На лістах ліпы часцей пасля цвіцення з'яўляецца падзь. Аднак яна шкодная для пчол, і яе не варта пакідаць у вуллях на зіму.

З даўніх часоў ліпу шанавалі і засцерагалі. У многіх краінах яна лічылася святой раслінай. Славяне саджалі ліпу каля храмаў і цэркваў. Пад ёй праводзілі сходы, святы, суды; вандроўнікі спыняліся на адпачынак. Ліпа была дрэвам шчасця, чысціні, дабрыні. У старажытнай Русі лічылі, што ліпа засцерагала хату ад злых сіл, таму нездарма ведзьмы не любілі яе. Падчас дажджу пад ліпай можна было хавацца ад навальніцы і не баяцца маланкі. Крыжыкі, зробленыя з ліпы, вешалі на шыю людзям з нярвовымі хваробамі. Увесну, калі выганялі жывёлу на пашу, пасярэдзіне луга забівалі ліпавую галінку, верачы, што яна абароніць кароў ад дзікіх звяроў і яны не будуць разыходзіцца далёка. Галінкамі ліпы ўпрыгожвалі дамы на Тройцу і Юр'еў дзень. Лісце ліпы па форме нагадвае сэрца, таму ва ўсходніх і заходніх славян яна зрабілася ўвасабленнем такіх выдатных чалавечых якасцяў, як сардэчнасць і добразычлівасць. У Германіі дрэва было сімвалам жаночай пяшчоты, мяккасці, грацыі і прыгажосці.

Ліпу нельга было секчы і нават ламаць галінкі. У палякаў гэта лічылася дрэнным знакам. Сям'ю, ссечшую ліпу, чакалі няшчасці і нават смерць.

У заходніх і ўсходніх славян ліпа лічылася дрэвам Багародзіцы. На яе вешалі абразкі і свята верылі, што менавіта пад гэтым дрэвам адпачывае Багародзіца, спускаючыся з нябёсаў.

Старажытнагрэчаская легенда распавядае пра ліпу наступнае: *«Аднойчы Зеўс і Гермес, жадаючы выпрабаваць людзей, з'явіліся ў іх паселішчы пад выглядам вандроўнікаў. Багі стукаліся ва ўсе дзверы, але прышлых чужынцаў ніхто і на парог не пусціў. І толькі Філемон з Баўкідай гасцінна запрасілі іх у свой дом, шчодра пачаставалі і прапанавалі начлег. За гасціннасць і шчырасць сэрца багі надзялілі мужа і жонку даўгалеццем і магчымасцю памерці ў адзін дзень. Пасля смерці Філемон і Баўкіда не адправіліся ў змрочнае царства Аіда, а ператварыліся ў два ліпавых дрэва, якія выраслі з аднаго кораня».*



# Смілавічы – наша пчалярская маладосць

Пад такім дэвізам Саюз пчалярскіх арганізацый «БелАпіЮніон» правёў мерапрыемства па пчалярству 5-6 снежня 2015 года ў пасёлку Смілавічы Чэрвеньскага раёну на базе «Смілавіцкага дзяржаўнага аграрнага каледжа». Прысутнічала больш 80 чалавек, і ў пераважнай большасці гэта былыя студэнты, выпускнікі ўказанай навучальнай установы.

Галоўная мэта мерапрыемства – сустрэча выпускнікоў каледжа і прапаганда пчалярства.

Абмен вопытам, выстаўка пчалярскіх экспанатаў, продаж ветпрэпаратаў, пчалярскага інвентара і абсталявання, культурная праграма – няпоўны пералік тэматычных частак мерапрыемства.

З дакладамі аб становішчы пчалярства і задачах па яго развіццю выступілі дырэктар каледжа Сень Тамара Канстанцінаўна і старшыня Саюза пчалярскіх арганізацый Завальнюк Уладзіслаў Мацвеевіч. Па праблемным і тэхналагічным пытанням выступілі: М. Качаноўскі, В. Грыненка, В. Кавалец, С. Мыцько, М. Грашчанка і іншыя.

Сустрэча выпускнікоў і пчаляроў Беларусі ў Смілавічах у пачатку снежня прайшла два гады запар. Гэта ўжо традыцыя, і аб яе працягу на будучыя гады запэўнілі арганізатары мерапрыемства.

## Акцыі для бортнікаў

# Для бортнікаў – матэрыяльная выгада

**Для атрымання матэрыяльнай выгады членам аб'яднання «Бортнік» у 2016 годзе ўстанаўліваюцца наступныя віды паслуг:**

- Абмен воска на вашчыну (тарыф прафесіянал) скідка ад 10 да 15 %.
- Адсылка тавараў поштай ад 200 000 руб. да 1 млн. руб. – скідка 5%.
- Адсылка тавараў поштай ад 1 млн. руб. і больш – скідка 10%.
- Продаж тавараў камплектамі (акцыя «7 + 1 бескаштоўна»).
- Продаж пчаліных матак камплектамі (акцыя «9+1 бескаштоўна»).
- Продаж тавараў па купону з 01.04.2016 г. па 25.12. 2016 г. – 10% скідка.
- Падпіска на газету «Навіны пчалярства» на 2016 год.
- Удзел у мерапрыемствах «Бортніка».




## Этнаграфія

### МЕДАГОНКА –

машынка для выдалення мёду з сотаў. Лакальныя назвы «пушніца», «цэнтрабежка». Вынайдзена ў 1865 годзе чэшскім пчаляром-аматарам Ф. Грушкай. Разам са сканструяваным П. Пракаповічам рамовым вуллём і прапанаваным у 1857 годзе І. Мерынгам спосабам прыгатавання штучнай вашчыны паклала пачатак сучаснаму этапу пчалярства. Вядомы медагонкі розных канструкцый і мадэлей, але ўсе яны працуюць на выкарыстанне цэнтрабежнай сілы. Пры кручэнні барабана



з распячатанымі сотамі мёд выпадае з каморак (чарачак) і па ўнутранай паверхні сценак корпуса (раней цэбра) сцякае ўніз, адтуль зліваецца нагбом або па краніку. Пры выкачванні мёду медагонкай соты не псуюцца і прыдатныя для паўторнага выкарыстання, што эканоміць сродкі, час, палягчае працу пчол, бо на выраб толькі 400 г воску яны выдаткоўваюць (па інфармацыі з розных крыніц) ад 2 да 8 кг мёду. Сучасныя завадскога вырабу медагонкі падзяляюцца на хордавыя (у іх рамкі з сотамі трэба паварочваць, бо мёд выкачваецца толькі з аднаго боку рамкі) і радыяльныя (адкачка ідзе адначасова з двух бакоў, але працягваецца даўжэй). Медагонкі вырабляюцца на 2, 3, 4, 6, 8 і больш рамак.

**С.Ф. Цярохін**

# Яны пакінулі «Бортнік» назаўсёды



ЛЕАНОВІЧ ВАСІЛЬ МІКАЛАЕВІЧ
Івацэвіцкі раён
14.07.1967 г. – 05.05.2015 г.

ВЕРАМЕЙЧЫК АЛЯКСЕЙ АНДРЭЕВІЧ
г. Салігорск
19.12.1939 г. – 08.09.2015 г.

ГАПІЕНКА УЛАДЗІМІР МІХАЙЛАВІЧ
Гомельскі раён
01.03.1949 г. – 10.12.2015 г.

Навіны пчалярства
Газета для пчаляроў
**Заснавальнік і выдавец газеты:** УП «Пчалярства» СМГАП «Бортнік»
**Пасведчанне:** № 1742 ад 10 лістапада 2014 года

Выдаецца на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць выдання: адзін раз у два месяцы
За дакладнасць інфармацыі адказнасць нясе аўтар артыкула
Перадрук толькі з пісьмовага дазволу рэдакцыі
Кошт свабодны. ***Бортнікам бескаштоўна***

**Галоўны рэдактар :** Таццяна Барбосава
**Рэдакцыйны Савет:** Павел Вераб'ёў, Вольга Марозава, Васілій Кавалец
**Юрыдычны і паштовы адрас:** Мінская вобл., г. Салігорск, 223710, вул. Заслонава, 12
Тэл. (8-0174) 22-48-41, 22-73-82
**e-mail:** bortnik-saligorsk@tut.by

**Надрукавана у ТДА «Знамение»** вул. Каржанеўская, 14, г. Мінск, 220108
ЛП №02330/85 ад 23.01.2014
**Падпісныя індэксы: 63251, 632512**
Заказ № 74
Тыраж 1020
Нумар падпісаны да друку 8. 02. 2016 г.
ISSN 2412-0502